# Беларускіе легенды.

## Кніжка другая.

# Чорнакніжнік і зьмея, што вылупілася с пятушынага яйца.

З Я. Баршчэўскаго выдаў Янка Станкэвіч.






Друкарня „Гоман“. Вільня, 1917 году.

# Беларускіе легенды.

## Кніжка другая.

# Чорнакніжнік і зьмея, што вылупілася с пятушынаго яйца.






З Я. Баршчэўскаго выдаў Янка Станкэвіч.




Друкарня „Гоман". Вільня, 1917 году



# Чорнакніжнік і зьмея, што вылупілася с пятушынаго яйца.

Помню, як быў я яшчэ маладым, у нас быў пан К. Г. Благі гэта быў пан, страх спомніць, што ён вычаўпаў: дзяцюкоў і дзяўчат жаніў і замуж аддаваў, ня гледзючы ні на прывязлівасць, ні на будучае шчасьце; ні просьбамі, ні сьлязьмі не маглі яго упрасіці, робіў сваё, зьдзекаваючыся над людзьмі без ніякаго жалю: конь і сабака мелі ў яго больш пашаны, як хрысьціянская душа. Меў ён лякая Карпу, благога-чэлавека; яны абодва, перш пан, а пасьля слуга прадалі сваю душу чарту. Вось як гэта сталося:

Зьявіўся ў нашым дварэ німа ведама скуль, якісь дзіўны чэлавек. І цяпер яшчэ помню яго: нізкі, худы, заўсёды спалатнелы [1]), нос вялікі, закручэны, як у савы, пагляд бытцым вар'ята; вопратка на ім чорная і якаясь дзіўная, зусім не такая, якую ў нас носяць паны або папы. Ніхто ня ведаў, ці ён сьвецкі, ці які мніх; с панамі гукаў па расейску. Даведаліся пасьля, што

---

[1]) Бляды.

гэта быў чорнакніжнік: вучыў ён пана робіць золата і іншых чартоўскіх навук.

Хоць я тады быў вельмі малады, аднак мусіў вартаваць у двары, абыйходзіць усе панскіе будынкі і званіць молатам у залезную дошку. Я бачыў часта а самай поўначы ў пакоі пана бліщчэў агонь, і ён чымсьці там с чорнакніжнікам заўсёды быў заняты. Адзін раз усе паснулі, ціхіня была ў двары, над страхой панскае хаты лётали кажаны і нейкіе чорные птушкі. Сава, сеўшы на страсе, то рагатала, то плакала бытцым дзіцянё. Мне стало ворашна [1], але як перахрысьціўся і змовіў пацяры, крышку палягчэло; я пасьмялеў і пастанавіў прыцікацца да панскаго вакна і глянуць праз абалону, што там яны робяць. Ледзь падыйшоў, ля сьцяны згледзіў якогась страшка. Страх спомніць: была гэта вялізная рапуха, глянула на мяне агнявым воччэм, я адскікнуў узад, уцекаў, як шалёны, і ледзь здзержаўся за 200 сігнёў [2]). Шорах [3]) прабёг па целі; я падумаў, што гэта чорт, скінуўшыся страшком, пілнаваў вакна майго пана, каб ніхто ня згледзіў

---

[1]) Страшна, жутка, трывожна.

[2]) Сігень—крок, шаг.

[3]) Дрыжанка, што бывае каротківі час і заусёды ад страху падчас гэтае дрыжанкі бытцым электрычны ток прабягае па целі.

сакрэтаў, што там дзеяліся. Я памаліўся і, хоць у летку было месячна і цёпла, дрыжэў бытцым на марозе; дзякаваў Богу, што хутка запеяў пятух, згасілі агонь у пакоі, і я, крыху супакоіўшыся, дaждаўся усходу сонца.

Другое здарэньне так сама было дзіўное. Я сёк дровы ў лесі; ужо сонцэ было на заходзі,—гляджу: йдзе дарогай пан с чорнакніжнікам, і як га завярнуліся ў яловы гушчар. Я, будучы заўсёды цікавым, цікаюся і хаваюся за дрэвам, пэўны, што тамака будуць якіесь чары. Ціха было ўсюды, здалёку тыкеля стукала жаўна на гнілым дрэві. Бачу: на старой вываратні сядзіць пан, ля яго стаіць чорнакніжнік і дзяржыць за галаву вялізную гадзіну, каторая чорным хрыбтом абвіла яму правую руку. Ня ведаю, што было далей, бо са страху я уцёк.

Трэйцяе здарэньне яшчэ страшнейшае; хоць я яго не бачыў, затое чуў з вусн пэўных, і аб гэтым па усіх вёсках ваколіцы гукалі. А поўначы наш пан, гэны госць і лякай Карпа ўзялі з хлева чорнага казла і вялі на могільнік. Кажуць, што там яны выкапалі з магілы трупа, чарнакніжнік апрануўся ў вопратку ўмершаго, забіў казла, з гэным мясам і крывёў робіў якіесь страшные ахвяры, а што там робілася ў

начы, ня можна спомніць бяз вораху[1]). Казалі, што нейкіе страшкі напаўнялі усенькае паветра, нейкіе звяры, бытцым дзікіе кабаны і ваўкі, бегалі наукола, кругічучы і выючы так, што пан і Карпа са страху самлелі. Ня ведаю, хто іх ачуціў; тое тыкеля добра ведаю, што пасьля гэнае страшнае ночы чарнакніжнік счэз, і ніхто яго пасьля не бачыў. Пан быў заусёды смутны, хоць меў золата і ўсяго даволі, — яшчэ і больш пагоршаў, ніхто яму ўгадзіць ня мог, і Карпу прогнаў з двара.

Карпу, выслаўшы з двара, аддалі за работніка аднаму дастатнаму гаспадару, але ён больш замінаў, як памагаў, бо, змалку жывучы ў двярэ, зробіўся ляным, артачным і непаслухмяным. Часта на яго жаліліся пану; той перэнасіў яго з аднае хаты ў другую, але ён нідзе ня мог доўга аставацца. Напасьледак прасіў пана даць яму хату і некалькі дзесяцін зямлі, што ён на сваёй гаспадарцы больш будзе рупіцца. Згодзіўся пан, дык далі яму двое канёў, некалькі кароў і іншае жывёлы на завод. Наапошку ён задумаў жаніцца, але ніводная гаспадарская дачка не хацела ісьці за яго, бо ніхто не галіўся ні на яго, ні на ягоную гаспадарку, дый ду-

[1]) Страху.

малі, што ў яго ні веры, ні Бога ў сэрцы небыло.

У тым сяле, дзе жылі калісь мае бацькі, быў сусед Гарасім, чэлавек рупны; усяго яму хапала. Меў ён дачку Агапку: лёсая[1]) была дзяўчына, сьвежая, румяная, як сьпелая ягадка. Даўней, калі ўбярэцца і пойдзе на кірмаш с касьнікам у касе, ды ў чырвонай шнуроўцы, сьвеціць, як макавы цьвет, — усе ня могуць на яе наглядзецца; кожны любіў з ёй паскакаць, і дудар ёй граў найахватней. Ах! прызнаюся, што і я тады ўкеміў[2]) яе і сягоньня ўздыхаю па ёй.

Укеміў яе і Карпа і пастанавіў аднаканчэ ўзяць яе; але, ведаючы, што яна не любіла і бацькі не хацелі, каб ён быў іхным зяцем, і ягоных сватоў не прынялі, ён, каб паставіць на сваім, ідзе да пана прасіць, каб Агапцы прыказаў аднакончэ выйсьці за яго замуж. Ейные бацькі, даведаўшыся аб гэтым, звярнуліся да аканома і ўсей валасьці, каб яны ўпрасілі пана не аддаваць Агапкі замуж, бо яна яшчэ помалада, мала паможэць мужу, дый Карпова

---

[1]) лёсая дзяўчына — дзяўчына пекная, добрая, здаровая, гэткая ў якой ніякінячкай ганьбы і ўсё ёсць добрае.

[2]) ўкеміць—тут значыць вельмі ўпадабаць, палюбіць.

гаспадарка вельмі згаводана. Пан паслухаў і адклаў вясельле к налецьцю. Карпу загадалі пасьля гэтаго часу паказаць, што ён зробіць добраго і колькі заробіць грошай.

І я любіў Агапку, але каб жаніцца з ёй, то аб гэтым і падумаць ня мог: баяўся, каб пан не засердаваў, дый с Карпам трудна было спірацца, — ён быў панскім падлыжнікам, сябраваў з усімі чараўнікамі і, калі б тыкеля даведаўся аб маёй прывязьлівасьці да Агапкі, пэўне штось зробіў бы благое са мной. Дык я ў душы тыкеля ціш ком тужыў, прасіў Бога, каб нявінная авечка не ўпала ў кіпці шалёнаго ваўка; але начэй здарылося.

Карпа, гэты несумленны і ленты да працы чэлавек, ідзе радзіцца да Парамона, найстрашнейшаго чараўніка ў нашай ваколіцы, расказывае яму аб сваёй прывязьлівасьці да Агапкі і што яму даў пан зробіць к налецьцю, ды просіць яго парадзіць, як хутка можна дастаць грошы і што гатоў на ўсенька, хоць душу чарту прадаці, абы тыкеля свайго дапяць.

Парамон выняў са скрыні заверчэные ў паперу якіесь зернияткі і, даючы яму, гэтак радзіць: „Калі не маеш чорнаго пеўня, дык дастань яго дзе-небудзь, накармі гэтымі зернятамі, і ён праз некалькі дзён

знясе яйцо — не вялікшае, як яйцо галуба. Гэнае яйцо насіць тэ трэба ўвесь месяц пад левай пахай, пасьля гэтаго вылупіцца маленкая яшчарка, каторую ты будзеш насіць с сабой і што дзень карміць малаком на сваёй далоні. Яна будзе расьці хутка, скураное крыльле пакажыцца з аднаго і другога боку, цераз адзін месяц зменіцца ў лётаючую зьмяю і будзе усё робіць, што ты загадаеш: у начы ў чорнай пастаці прынясе табе жыта, пшаніцы і іншаго збожжа, а калі прыляціць, шыбаючы агонь, гэта значыць будзе, што мае золата і срыбра. Жыві з ёй у згодзі, калі хочэш быць багатым, бо калі ўзлуеш, можэ спаліць тваю хату і ўсю ваколіцу.

Карпа найахватней зробіў, што яму радзіў Парамон, выгадаваў нягодную зьмяю, але даведаліся аб гэтых яго чарах, бо людзі, позна варочаючыся дамоў, бачылі зьмяю. Я раз на начлезі бачыў, як гэны страшок ляцеў, пушчаючы навокал сябе іскры, бытцым распаленае зялеза пад молатам каваля, і над страхой хаты Карпы рассыпаўся на дробные часткі і счэз. Неба тады было пагодлівае, ніводнае хмаркі; зоркі на ўсім небі сьвяцілі. О, Божэ! падумаў я сабе, ты ўсенька бачыш і будзеш судзіць людзкіе справы, але людзі ня помняць гэтаго.

Цераз некалькі месяцоў Карпа ўжо

багатыр; на кірмашы, або сьвятам у карчме ходзіць, узяўшыся ў бокі, галава задзёрта і, здаецца, ўсіх мае за нішто, жменяй кідае грошы на стол, кажэ падаваць, што тыкеля яму прыйдзе ў дум, частуе ўсіх і сьмела крычыць, што пан яму, як родны брат, усё для яго зробіць, што Агапка павінна мецць за шчасьце, калі можэ выйсьці за яго замуж, бо ён за свае грошы можэ купіць сабе жонку, якую захочэ.

Агапка, чуючы аб гэтым, сьлязмі ўмывалася, бо ведала, што яна і бацькі нічога ня зробяць, што усё залежыць ад пана, а пан не мае ніякае літасьці; знала яна добра таксама сумленьне і абычаі Карпы, чула часам гуканікі суседзёў міжы сабой, што ён ужо пасябраваў с Царамонам, што ўжо ўзяў сабе ў служкі чарта, каторы прынёс яму лёса [1]) грошай. Ня цешылася з золата маладая дзяўчына, бо хацела тыкеля знайсьці ў сваім мужу рупнаго, цнатліваго і багабойліваго чэлавека.

Ужо год мінае. Карпа ў месьці накупляў дарагіх падаркаў пану і прыехаў на пекным кані прыпамінаці абецанку. Паслалі па бацьку дзяўчыны, загадалі рыхціцца да весельля.

Бедны Гарасім са сваёй жонкай плакаў над нядоляй дзіцяці і маліўся, каб Бог быў ёй апякуном. Агапка хавалася са-

сваім горам, каб больш не ўжаліць бацькоў. Сабраўшы сваі едвабные касьнікі, каторые найбольш любіла, і некалькі сувояў тонкаго палатна, што сама саткала, пайшла да царквы і, павесіўшы гэта ўсё на абразе Прачыстае Маці, пала на твар, заліваючыся сьлязьмі; ўсе там быўшые не маглі здзержацца ад сьлёз. Пасьля набажэнства выцерла насаткай сьлёзы і вярнулася да бацькоў супакойная, якбы ўцешэная.

Літасць і прывязьлівасць да дзяўчыны адагналі ў мяне ўвесь страх. Іду да хаты, дзе жыў Гарасім. Дзіўные думкі мятусіліся ў маёй галаве; я пастанавіў ад напасьці схавацца дзе-небудзь у далёкіх краёх. Ідучы да вёскі, зглядзіў Агапку. Яна адзінокая хадзіла па полі, плачучы пеяла жалобным голасам вясельную песьню на падзяку бацьком за іхную апеку. Падыйходжу да яе, бяру за руку. Я быў як непрытомны тады. Хочучы ёй палягчыць, гэтак кажу: — Агапка, я ведаю чаго ты плачэш, ведаю гора бацькі і маці: Карпа, бязбогі чэлавек, падкупіў пана. Паслухай мае рады,—калі хцоъ частку маеш такое прывязьлівасьці да мяне, якую я маю да цябе і тваіх бацькоў. На зямлі ёсць высокіе горы,

---

[1]) вельмі многа, множства.

заросшые густым лесам; гэтые цёмные бары, што чарнеюць каля нашых сяліб вялізазные, — іх цемраў ня ўгледзіць людзкое вока, яны канчаюцца вельмі далёка. Ідзема адгэтуль, схаваймася ад усіх знаёмых у гэных дзікіх пушчах, я буду тваім апякуном і павадыром. Сьвет вялікі: знойдзем нейдзе куток, дзе схаваемся; ёсць і людзі добрые, даюць прыпынак праступным, каторых суд прасьледуе, а мы нявінны ні перад людзкім, ні перад Божым судом і працай дзенебудзь заробім сабе на кавалак хлеба. Бог добры дасць нам здароўе і сілы, ў гэтых цемрах паможэць нам.

Як я гэта гукаў, сьлёзы цурком ліліся з маіх вочаў. Агапка, гледзючы на мяне,— „я ця люблю, сказала, але не магу згадзіцца на твае рады: бацькі мае будуць цярпець за мяне. Ніхай лепш я буду ахвярай нешчасьця майго, каб яны тыкеля супакойные былі!“—Сказаўшы гэта, борзда пайшла дамоў.

Доўга стаяў я на адным месцы, ня ведаў, дзе дзецца. Вярнуўся ў безнадзеяньні дамоў, як непрытомны, бёг узноў у поле, сноўдаўся па лясох, за ніякую работу ўзяцца ня мог, ўсё было ня роблено, с тугі я за малым не памёр.

Прачыталі запаведзі, прыйшла нядзеля. Карпа з Агапкай бярэ шлюб у царкве. Ен

быў вясёлы, стаяў проста, валасы на галаве стрыжэные па панску, на шыі ядвабная хустка, бліскучые боты, вопратка с тонкаго сукна—гэткая, як пан часамі апрана е; каліб хто не знаў, што гэта Карпа нашбрат, за паўвярсты яшчэ зняўбы шапку ды пакланіўсяб. Яна, наадварот, смутная; ейны твар спалатнелы, змяніўшыся, бытцым у цяжкіх сухотах; воччэ ў сьлёзах, і казалі, што сьвечкі ў абоіх маладых так цёмна гарэлі, што іншые са страхам на гэта пазіралі, шэпчучы міжы сабой: „ня будзе гэзьдзека шчасьця!“—Па шлюбе Карпа са сватамі і маладой паехаў да пана, а з двара да бацькоў Агапкі. Вясельле было Бог ведае па якому. Карпа з бязлецтва быў у двара, ужо яму звычаі і абычаі нашы вясковые сьмешные былі і не падабаліся, не перэежджаў ён праз полы [1]) запаленае саломы, ня гукалі ніякіх арацый, не пеялі песьняў вясельных, ня клікалі нават дудара, і моладзь была бяз скокаў, дык вясельле было ў Гарасіма падобнае да пахову. І хутка адтуль маладые са сватамі паехалі да свае хаты. Там ужо Карпа у кожным паступку хваліўся, што ён не абы хто і багаты, і хацеў, каб яму ўсе падлыгавалі.

Паклікаў дудара, бытцым урадніқ [2])

[1]) Полымя.
[2]) Урадніқ—чыноўнік.

які, кінуў яму некалькі белых і загадаў граці; заплаціў добра таксама і жонкам, каб пеялі; з вымушанай ветласьцяй, бытцым паніч, прасіў дзяцюкоў і дзеўчат гуляць. Не было там шчырасьці, адно тыкеля, што яды і напіткаў было аж пошмат; чаркі з гарэлкай траха без супачынку перайходзілі з рук у рукі. Шум у хаці, музыкі граюць, ён расказвае аб сваёй дворнай службе і аб ласцы, якую меў у пана. Але Агапка як забітая; было шкода на яе глянуць.

На панадворку, хоць і цёмна, час быў супакойны; ўжо поўнач на чыстым небі, госьці ўгрэўшыся гарэлкай гуляюць вясёла. Як стой, бытцым маланка асьвяціла хату і якісь нязвычайны шум чуваць за сьцяной. Пацямнеў агонь, змоўклі ўсе, пазіраючы адзін на аднаго. Карпа, якбы крыху змяніўшыся і якбы непрытомны, голасна сказаў:—„Прыйшоў мой госьць“—і як га, адвярнуўшыся да сваіх прыяцелёў, пачаў гутарку аб чым іншым. Але пасьля гэтаго здарэньня дзіўная нейкая змена была ў хаці, на кожнаго напаў якісь несупакой, некаторые бачылі незразумелые і страшные дзіўствы то на панадворку, то ў цёмных кутох хаты. Гэты ўгледаў, што нейкіе страшкі, абросшые валасамі, з-за сьцяны прыглядаліся ў вакно; таму з'яўляецца седзючы на печы якісь карлюк з вялізнай галавой,

чорны, як вугаль; гэты бачыць бытцым таго чарнокніжніка, што вучыў чартоўскіх навук і рабіць золата. Карпа, угледзіўшы вочах некаторых вясельнікаў, сьмеяўся, кажучы, што крэпкая гарэлка зробіла гэтые дзівы, загадаў граць дудару і пеяці песьні. Сярод шуму і гаму забыліся аб усім.

Адчыняюцца дзьверы: увайходзіць чараўнік Парамон, с пад густых броваў бліскучым воччэм агляну гасьцей і, ў парозі яшчэ стоючы, гэтак сказаў: — „Кланяюся вам, паважаные сябры, нехай у вашай вясёлай бясёдзе радасць не перэстае, а маладым жадаю згоды, багацьця і заўсёды таксама вясёла прымаць і частаваць суседзёў і добрых сябраў".

Карпа вітаецца з ім і просіць, каб даў на покуці; растуцаюцца госьці, ён сеесе хрыбтом апёршыся аб сьцяну, з гары разглядае ўсіх стаячых ля сябэ. Карпа падае яму гарэлкі і закускі.—„А дзеж твая Гапуля, маладая гаспадыня? Ці яна так занята, або можэ мяне не пазнала? Я пастарэў, а яна вельмі маладая, яшчэ ёй трэ' вучыцца, як жыць на сьвеці".—Карпа прыводзіць Агапку. Той глянуўшы на яе смутны твар: — „Не смуціся—кажэ—пажывеш, палюбіш і добра будзе".

Акім, селянін заднае валасьці, прыгоньнік пана К. Г., быў калісь у вялікай

злосьці с Парамонам. Падпіўшы, бо пры гарэлцы не любіў дзяньгубіць[1]), ён прыпомніў даўнейшую злосьць, залажыў рукі за пояс, адставіў правую нагу, стоючы перад Парамонам і гледзючы яму у вочы, гэтак адазваўся: А! кланяюся.

Няўчом котка хвост свой лізала,
Аж яна цябе у госьці чакала.

Усе глянулі на Акіма, не радые, што ён, ўпіўшыся, асьмеліўся жартаваць с Парамонам; баяліся каб ня выйшло адгэтуль якога нешчасьця, бо ўсе верылі ў яго чары, што ён не тыкеля можэ на людзей насланць розные хваробы, але, калі захочэ, ўсё вясельле перакіне ў ваўкоў.

Парамон глянуў на яго з усьмешкай: — „А ты, — сказаў, — так цікуеш часам пад панскі, або суседзкі сьвіран, або туды, дзе беляць палатно, што цябе не тыкеля вартаўнік не пачуе, але гэткаго госьця і сабака ня знюхае.“

—„Га! помню добра, як мяне абвінавацілі, што я украў палатно, — адазваўся Акім: — і ты варажыў на рэшато, выклікаючы ўсіх селян. Як выклікаў маё найменьне і Грышкі дудара, рэшато пакруцілося,

1) дзяньгубіць — ад „дзень губіць“ — марнаваць час.

паказало, значыцца, на нас. Аканоміха паверыла тваім чарам, нас тады бязбога білі, а пасьля даведаліся, што мы нявінна мучыліся. Нягодные твае паступкі і ў чарах тваіх німа ніякае справядлівасьці“.

Тут адазваўся і дудар Грышка: — „Га! але, помню і я: варта былоб за тваю ману ў чарах кіём падзякаваць, каб ты і з зямлі не ўстаў.

Парамон ня мог сцярпець гэтаго, заблішчэлі яго вочы, пачырванеў увесь, ускочыў з лавы. Усе спалохаліся. Карпа хапае яго за шыю і просіць, каб ім дараваў, бо п'яные,—ня помняць, што кажуць; прыбегае і Агапка, хапае яго за руку, просіць выбачыць, што ў іх меў гэткую непрыемнасць, так сама Акіму і Грышку кажуць, каб яны забыліся аб бытым і пагадзіліся з ім. Карпа ставіць на стале гарэлку і малістуе, каб па чарцы выпіўшы адзін да аднаго забыліся аб тым, што даўней было.

Чараўнік, крышку супакоіўшыся, — „добра—кажэ,—я пагаджуся, будзьце супакойны: я не тыкеля не хачу перарваць вясёлае гульні ў вашай хаці, але яшчэ пявялікшыць яе; некай сабе Грышка грае вясёла на дудзе, а Акім гуляе!“ — і с хітрай усьмешкай дадаў: „дык хадзеця, на просьбы гаспадара і маладое гаспадыні выпіма адзін да аднаго па чарцы гарэлкі, яшчэ пявень не

запеяў: цяпер самая пара павесяліцца“. Карпа, Агапка і госьці прымушаюць Акіма і Грышку, каб яны селі за стол с Парамонам. Тые паслухалі, выпілі па чарцы, зара па другой.

— Згода, згода — крычаць некаторые госьці, сталы застаўляны ядой, годзе і напітку, піма, гуляйма, жадаючы маладым багацьця, здароўя і даўгога жыцьця“. Запеялі песьні. Грышка надзімае свой мех скуранны, моладзь гуляе. Парамон задумаўшыся з злым тварам пазіраў то на Акіма, то на дудара; трохі часу была добрая вясёлая гульня. Але якга Грышка пачынае шалёнаго якогась казака, вясельнікі крычаць і просяць, каб граў Цярэшку і пяюць: «*Цярэшцы беда стала, с кім яго жана спала*“. Ен на нішто не глядзіць, з нікім не згаджаецца і ўсё сваё грае бяз ніякаго ладу. Якга Акім выбегае на сярэдзіну і пачынае скакаць, як шалёны, хто ведае па якому; дзівуюцца ўсе гледзючы і неразумеючы, што з ім сталося. Вочы яго зробіліся круглымі, твар змяніўся; просяць аднаго і другого, каб адзін кінуў граць, а другі гуляць,—нічога не памагае, ніякіх просьбаў ня чуюць, бытцым здурнелі абодва. Хочуць яго удзержаць; ён мурмючы штось незразумелае, вырываецца, ўзноў гуляе, і дудар грае без перэстанку. Парамон, гледзючы на іх з боку

і сьмяючыся голасна: — „Не чапайце іх, — кажэ — ніхай павесяляцца, другі раз не захочуць с кожным чапацца“. Карпа просіць, каб ім выбачыў і прыказаў перэстаць.

— „Хай яшчэ пагуляюць, — адказаў Парамон, — гэта іх навучыць, што будуць людзей разумнейшых паважаць“.

Гэткім шалам дудар і Акім доўга мучыліся. А ўжо і поўнач прайшла і другіе пэўні запеялі. На апошку Грышка выпушчае з рук дуду і валіцца на зямлю, самлеўшы. Акім хістаецца, пачарнеў ўвесь, якбы перад сьмерцяй.

Гэткім спосабам Парамон, спагнаўшы злосьць, пашаптаў штосьці, даў ім вады, і як яны супакоіліся, чараўнік узяў шапку, пакланіўся гаспадаром і пайшоў дамоў.

Гэта здарэньне сапсуло усенькі парадак; ўсе госьці адзін за адным, дзякуючы гаспадаром за іх чэсць і зычучы багацьця і шчасьця, выходзілі.

Па вясельлі Карпа пачаў жыць не па наську. Ен хутка паставіў другую хату з вялікімі вокнамі, завёў сад, дзе садовые дрэвы цьвілі, дый хата яго больш была падобная да дворнае, чымся да вясковае хаты. Ен пасадзіў пад вокнамі краскі такіе, якіе растуць у панскім гародзі, с каторых ніякае карысьці німа. Агапцы забараніў насіць беларускую шнуроўку і хустку на

галаве, але прыказаў убірацца ў гэнакіе сукні паркалёвые, якіе носяць шляхцянкі.— Не хацела яна меняць сваіх вопратак, бо ведала, што ўсе, бачучы яе у дворнай вопратцы, будуць зваці ляной; наапошку мусіла згадзіцца і гэнак апрануўшыся палівала краскі. Наймітаў было многа і было каму с сярпом пайсьці на жніво! Пан у яго бываў у гасьцёх; меў грошы, меў і пашану, але ціж у гэтым шчасьце.

Заўсёды ён быў несупакойны ў думках сваіх, ніводнаму парабку ніколі не сказаў ласкаваго слова. Агапка не магла яму ўгадзіць, яе ўсьмешка была для яго наругамі, ейны супакой зваў ён дурнаўством, яе пацяроў, каторых маці яе навучыла, цярпець ня мог.

Часамі вайцяў сваю жонку, што лянуецца, як га па заходзе сонца ідзе спаці, і не хацеў, каб робіла, або малілася да пазна. А поўначы часам ускікаваў з ложка, і ля дзьвярэй, або ля вакна німа ведама с кім гукаў, выбегаў за дзьверы і хто ведае дзе знікаў, аж пакуль пявень не запеяў.

Меў сяброў, каторым кідаў грошы і з імі заліваў свой несупакой душы гарай; бывала некалькі дзён не бачылі яго дома.

Раз у вечары, калі ўжо найміты, напрацаваўшыся за дзень, пайшлі супачываць, Агапка адна смутная сядзела ў хаці, жду-

чы свайго мужыка. Неўспадзеўкі сьвятло, як маланка, асьвяціло сьцены, і ўзноў цёмна; ёй зробілася варашна, яна пaглядае ў цёмные куты, якбы баючыся чагось; чмыхнуўшы кот кінуўся ад дзьвярэй і, натапурыўшыся стаў сярод хаты, сьвецючы несупакойным воччэм. Як га, увайходзіць маладзён, пекна ўбраўшыся на руках шмат залатых пярсьцёнкаў, падперазаўшыся шырокім, чырвоным паясом. Агапка ўглядаецца ў незнаёмаго, каторы ёй здаваўся прыёмным, — вочы тыкеля былі пранікліве, і пры першым спатканьні ён меў штось страшное.

—«Кланяюся маладзіцы, — сказаў незнаёмы; штож так сядзіш адна, як сірата якая? Глядзіш мне ў вочы, я табе чужы, але я цябе часта бачыў і знаю добра. А дзеж Карпа, твой мужык?»

— «Ня ведаю: трэйці дзень як яго не бачу; нейдзе ў знаёмых, а мо паехаў да места; я чула, штось спамінаў аб гэтым».

— «Што яму рабіці ў месьці? гуляе сабе, карыстаць с шчасьця ня ўмее, золата і срыбра мае даволі, а якаяж з гэтаго карысць? Могбы збудаваці лёсую хату, лепшую за гэту, такую, аб якой старые расказаваюць у казках, што ўсенька сьвяціла б золатам і срыбрам, і шчырым золатам былаб пакрыта; могбы завесьці сад, як той, дзе

залатая і срыбная садовіна сьпелаб, дзе райскіе птушкі пеяліб, ля вакна расьліб у яго краскі ясьнейшые, як зоркі на небі. Гэты кот яму курнючы расказаваўбы даўнейшыну, з'ехалосяб многа паноў глядзець на гэтые дзівосы, і ён ляпей жыўбы, як князь; ты маладая, лёсая і разумнейшая ад яго, прымі на сябе загад: я тэ[1]) буду памагаць, і мы сьвет задзівім». Гэта кажучы, сеў бліжэй ля яе на лаві.

Агапка, гледзючы яму ў вочы: — „ці ты даўно знаёмы з маім мужыком?“ — папыталася.

— „Знаю яго з бязпецтва, мандрую па сьвеці і служу шчасьлівым людзём; ты шчасьлівейша ад іншых, тэ хачу найляпей служыці“.

— „Хто ты, як твaё найменьне?“

— „На што ведаць маё найменьне? Я твой прыяцель, згадзіся тыкеля на мае жаданьні і ўслугі, пасьля даведаешся аб усім, (і сыплючы золата на зямлю) бачыш, што я магу!“—сказаў гледзючы на яе.

— «На грошы я не галюся, жадаю тыкеля супакою душы і хай мной апякуецца Прачыстая Маці Сірацінская».

Ледзь яна прагукала імя Божае Маці, ён шыбнуў поламі і як га счэз. Агапка з

1) табе.

дзікім крыкам выбегае за дзьверы і млее. На гэту трывогу прачыхаюцца хатніе, бягуць ёй на помач, знайходзюць у прымне[2]), ляжыць бытцым труп, ледзь ёй дух вярнуць маглі. Усеньку ноч не спалі, не спала Агапка, а пры ёй сядзелі хатніе, дбаючы аб яе здароўе.

Нараніцы вярнуўся Карпа дамоў. Як яму расказалі аб гэтым здарэньні, ён задумаўшыся доўга нясупакойна хадзіў. Ўрэшці падходзючы да свае жонкі, сказаў:—Штож ты зробіла, калі пасеяна, дык трэба йжаці, бо інакш людзкі сьмех і нешчасьце.“

—„Я ня сеяла гэнаго благога насеньня—адказала плачучы—валей умерці, чымсьці карыстаць з гэтаго жніва.“

Ен кінуўся да яе с кулакамі, але яна ўцякла за дзьверы і схавалася, пакуль яму злосць не адышла.

Карпа апусьціў зусім гаспадарку і на прыгон рэдка калі пасылаў сваіх парабкоў. Аканом на гэта не звяртаў увагі і усё яму выбачаў, бо ён сказаў аканому, што хочэ быць вольным і абяцаў вялікіе грошы за сябе і зямлю, на каторай жыў.

Аднаго вечара ён сядзеў у хаці ля вакна задумаўшыся; чуваць было, што гукаў сам с сабой. Жонка просіць яго, каб су-

---

[2]) прымен—сені.

пакоіўся; ён тыкеля адказаў: „вярнуся заўтра“,—стукнуў дзьвярыма і пайшоў німа ведама куды.

Агапка паклікала да сябе жонку (кабету), бо баялася адна начаваці. Ледзь задрамала, чуе, што хтосьці гарачай даланёй даткнуўся да яе рукі; глянула і бачыць: гэны мужчына, што яе надовічы перапалохаў, стаіць, дзіўна апрануўшыся, глядзіць на яе і вочы яго гарaць, як дзьве сьвечкі; шапачка на галаве і пояс, каторым быў падпіразаўшыся, былі чырвоныя, як жар, або распаленае зялеза. Яна спалохаўшыся ледзь рукой магла крануць, каб перэхрысьціцца, і ён як га знік. Пабудзіўшы таварышку, Агапка расказала ёй аб гэтым страшным зданьні; пазюкалі крыху, а як супакоіліся, ўзноў тое страхацьцё зьявілася перад імі і ўзноў знікае на ўспамін імені Ісус Марыя; дык усталі, засьвяцілі агонь і маліліся, пакуль пявень не запеяў.

Агапка перад усходам сонца пасылае жонку да сваіх бацькоў, каб расказала аб гэтых страхацьцёх і прасіла іх даведацца і парадзіць ёй, што мае робіці ў гэткім здарэньні.

Пайшлі галасы па ўсёй воласьці аб тым, што зьмея некалькі разоў перэпалохала Агапку, паказываючыся ёй ў розных

пастацях. Карпаж даводзіў, што гэта мана[1]), што яго жонка бытцым дурная, а мо і чорт яе страшыць за якіе—небудзь грахі.

Адвячоркам, як у полі кончылася работа, Гарасім са сваёй жонкай пайшлі даведацца свае дачкі. Агапка, як іх згледзіла праз вакно, з вялікай радасьцяй выбегла сустракаці, уводзіць у хату і са сьлязмі разказывае сваё гора, зьмену у жыцьці яе мужа, з'яўленьне ў пастаці чэлавека гэнае зьмяі, каторая яму служыць. — „Тож бато — адказаў Гарасім, — калі я, яшчэ перад тваім замужжам, расказаваў аканому і іншым людзём, што Карпа выгадаваў сабе зьмяю, каторая яго багаціць, сьмеяліся з мяне, казалі: дурны мужык, і калі дайшло да пана, ён сказаў: — „Слухай, хаме, калі ня кінеш расказываць гэтые байкі, то дастанеш с пяцьсот розак і паў галавы агалю, як вар'яту.“—Што яны цяпер на гэта скажуць?“

Маці плачучы ёй кажэ: «хутка збярэм з поля, пайдзем разам да Прачыстае Маці Сірацінскае, намаўляй і яго, каб ішоў і быў там у сповядзі. Бог злітуецца, а цяперачка вось маю с сабой сьвянцонае зельле, каторым што вечар будзеш хату курыць, і можэ дасьць Бог, што гэта ўсё супакоіцца».

---

1) мана—непраўда, лгарства.

Гэтак яны седзючы зюкалі аб тым і сім, а Карпы тады не было дома; ўжо і сутанак, пацямнела ў хаці, ноч была цёплая, нэба чыстае і такая ціхіня ў паветры, што, здавалася, волас не захістаўсяб на галаве. Хатніе, карыстаючы с пекнаго надвор'я паехалі на начлег, іншые пайшлі спаць у пуню на сьвежае сена. Агапка тыкеля ў хаці з бацькамі не могла скончыць прыёмнае гутаркі. Ціха было ўсюды, тыкеля часам трашчэў кнот на гаснучай сьвечцы. Пажджаўшы крыху, Агапка раздзьмухала агню і кінула на вугальле сьвянцонае зельле. Няўспадзеўкі за сьцяной загудзеў вецяр і заблішчэла ў хаці. Усе задрыжэлі, Агапка спалоханая:—„вось ён!“—сказала. Змоўклі і, мовючы пацяры, ждалі, што далей будзе. Ля печы стаялі гаршкі; адзін падлятае ў гару, валіцца на зямлю і разбіваецца на дробные чарапкі; гарлачык з путрай [1]), што стаяў на лаўцы, ўскікавае на стол, а са стала валіцца на зямлю і разбіваецца на дробные часткі; кот перэпужаўся і чмыхаючы схаваўся пад лаву; рознае хатняе судзьдзё пачало лётаць з аднаго кута ў другі.

Жонка Гарасіма медзянны крыжык пасьвенчаны ў Юхавічах, зняла с сябе і ўзлажыла на сваю дачку, кажучы: „нехай ён ця-

---

1) Такі квас беларускі, робіцца з аржанное мукі.

бе бароніць“. — Як гэта сказала пабожная жонка, бытпым град, вылятаючы с цёмных кутоў, дробные каменчыкі стукаліся ў сьцяну, і каменьне ў некалькі хунтаў вылятало зза печы; аднак ніводзін ня выцяў бацькоў і дачкі.

Сабраліся наймітьі, паглядалі баючыся і дзівючыся на хату: з вакон і сьцен ляцело каменьне рознае вялічыні. Ніхто туды і падысьці ня сьмеў, усе стоючы пазіралі і ня ведалі, што робіць.

Мінула поўнач, запеяў певень. Гэтае страляньне крыху зменшылася; аднак, ніхто ня сьмеў увайсьці ў хату. Найміты ждалі ўсходу сонца на двара. Агапка з бацькамі пайшла да іхнае хаты.

Як ужо сонцэ было высака, жывёлу выгналі ў поле, і парабкі іншые с косамі, іншые с сохамі ішлі на работу. Прыежджае Карпа, знайходзіць хату пустую, сустракае адну тыкеля кабету, каторая прышла, ўбачыўшы гаспадара. Ен пытаецца што гэта значыцца і дзе жонка; тая расказала ўсё, як было. Карпа, спалохаўшыся, закрычаў: „яна мяне згубіла!“—і як стой пайшоў да чараўніка Парамона.

Вестка аб гэтым здарэньні ў той жэ дзень разышлася на ўсёй ваколіцы. У панскім двара адны паверылі, што гэта нячыстая сіла, другіе сьмеяліся кажучы, што

тут ёсць нейкае дуронства (сваволя). Гарасім наказаў аб гэтым пану, просючы, каб ён у той жэ дзень прыехаў да Карпы і пасьвянціў хату, ў каторай чорт зробіў сабе гнязло.

Пад вечар цікавые папрыходзілі з усяе валасьці, каб бачыць гэтые дзіўствы; прышоў і аканом і з ім шмат з двара маладзікоў. Яны, ня веручы ў чартоўскую сілу былі пэўные, што зловяць якога небудзь дуроніка, нават некаторые з іх ні на што ня гледзючы адчынілі дзьверы і хацелі ўвайсьці ў хату; але ледзь сталі на парозі ўсе як га адскокнулі с крыкам. Лятучы камень некатораго з іх так выцяў, што ён ледзь мог прысьці да памяці. Людзі стаялі поодаль ад хаты, паглядаючы на гэтые дзіўствы, а каменьне што раз гусьцей сыпалося адтуль.

Карпа ў безнадзеяньні, змяніўшыся увесь і якбы непрытомны, праклінаючы жонку, суседаў і хатніх, хацеў улезці ў хату, але яму не пазволілі. Гэтта і Парамон стоючы штось шаптаў, але ужо сваімі чарамі ня мог памагчы.

Але ось і поп прыехаў, памаліўся і калі са сьвянцонай вадой хацеў пацысьці да сьцен, якга ўся хата загарэлася і хутка парухалася.

Здзіўляны народ, глядзючы на гэткую помсту благога духа, спіскаў плячыма, і кожны с тых, што там былі, з ворахам пакінуў ужо тыкеля вугальле і галавешкі. Парамон, трасучы галавой і адходзючы, лаяў нешчасьліваго Карпу:—«Ня шкодзіць дурному, як паслаў, так і выспаўся». Па ўсёй ваколіцы, ў кожнай хаці і ў панскім двара даўгі час аб гэтым гукалі.

Карпа пасьля пажару німа ведама дзе падзеўся: схаваўся дзесь і ўжо не даведаваўся больш ні сваіх сяброў, ні цесьця, ні жонкі. Розна аб ім зюкалі. Некаторые думалі, што ён вядзе хэўру з злодзеямі, каторые ў Вялікалуцкіе і Пскоўскіе староны выводзілі з Беларусі крадзеные коні, і пан паслаў жыда Хаіма на ўзьведы. Некаторые гукалі, што сустракалі яго, і ён на іх крык, як дзікі, ўцёк у лес.

Прайшло некалькі тыдняў. Адзін палянічы з выжлам ішоў блізка возяра, шукаючы качак; дзень быў троху хмарны і хвалі шумелі ля берагу. Бачыць здалёку на пяску ля самае вады чарнае стада крумкачоў, ён выстраліў, крумкачы паляцелі і схаваліся ў бары. Падыйходзіць, бачыць трупа, выкіненаго вадой, каторага яшчэ хваля пакрывала пенай. Як га ён расказаў аб гэтым у двара, наказалі ў суд, трудно было пазнаці чыё гэна цела, але па вопратцы і пяр-

сьцёнку пазналі, што гэта быў Карпа. Гэтак ён нешчасьлівы скончыў сваё жыцьцё; без малітвы і бéз папа там на беразі труп закапалі ў зямлю.

Агапка некалькі год жыла пры бацьках, ад смутку і перэпалахаў цягам няўздоляла. Па смерці бацькоў і яна, як сьвечка, згасла. Хай вякуе ў небі: жыцьцём сваім была прыкладам для ўсіх жонак нашае ваколіцы. Гэта было даўно, аднак і цяпер яшчэ там, дзе яна сьлязмі краскі палівала, зеленеюць вішні і яблыны. Гэтые краскі кожнай вясны найпякней цьвітуць, дзяўчаты сьвятам ўюць з іх вянкі і ўбіраюць абраз Прачыстай.



